• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

20 чэрвеня 1998 г. субота, № 127 (23478)

# ЗВЯЗДА



## ПЕНСІІ ЎЗРАСТУЦЬ. ПЫТАННЕ — НАКОЛЬКІ?

Паводле папярэдніх звестак, у параўнанні са снежнем майская сярэдняя зарплата рабочых і служачых у краіне ўзрасла прыкладна на 18 працэнтаў. Гэта азначае, што ў наступным месяцы ў Беларусі нарэшце будуць пераразлічаны пенсіі.

Як паведаміла ў гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» начальнік упраўлення пенсій Міністэрства сацыяльнай абароны Наталля Шаўлоўская, паводле прыкладных разлікаў, «сярэднія» пенсіі павінны ўзрасці ў ліпені на 17 працэнтаў. Аднак казаць аб канкрэтных лічбах гэтага павышэння пакуль выпадае хіба што ўмоўна, бо канчатковыя даныя павінны з'явіцца толькі ў наступны панядзелак.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ВЯЛІКІЯ АДЛЕГЛАСЦІ — НЕ ПЕРАШКОДА ДЛЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў 19 чэрвеня ў сваёй рабочай рэзідэнцыі дэлегацыю Прыморскага края Расіі на чале з губернатарам Яўгенам Наздраценкам. Як вядома, гэта візіт у адказ. Таму асноўнай тэмай перагавораў сталі пытанні, якія датычаць рэалізацыі дамоўленасцяў, дасягнутых у пачатку гэтага года — у час наведвання кіраўніком нашай дзяржавы Прымор'я.

Паводле слоў Яўгена Наздраценкі, сярод насельніцтва края і ў мясцовых сродках масавай інфармацыі прыезд прэзідэнта саюзнай дзяржавы атрымаў тады самую станоўчую ацэнку. Аляксандр Лукашэнка, у сваю чаргу, падзякаваў гасцям за візіт і зноў адзначыў поўнае супадзенне падыходаў да вырашэння агульных праблем.

Практычныя аспекты мадэлі супрацоўніцтва члены дэлегацыі Прыморскага края плануюць адпрацаваць у ходзе сустрэч з дырэктарамі прамысловых прадпрыемстваў, кіраўнікамі галіновых міністэрстваў і канцэрнаў, прадстаўнікамі дзелавых колаў нашай рэспублікі.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## УКАЗ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 319

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ ВА УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 26 ЛЮТАГА 1997 Г. № 167

1. Пункт 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 лютага 1997 г. № 167 «Аб першай мінскай мэтавай аблігацыйнай жыллёвай пазыцы» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 6, арт. 217) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«2. Устанавіць, што:

на перыяд дзеяння эксперыменту даходы, атрыманыя па аперацыях з каштоўнымі паперамі першай мінскай мэтавай аблігацыйнай жыллёвай пазыкі ў выглядзе розніцы паміж цэнамі рэалізацыі (пагашэння) і набыцця гэтых папер, акрамя даходаў ад рэалізацыі гэтых папер па цэнах, якія перавышаюць іх намінальную вартасць, павялічаную на суму працэнтнай стаўкі, устаноўленай пры выпуску каштоўных папер, не ўлічваюцца пры вылічэнні падатку на прыбытак і падатку на дабаўленую вартасць;

даходы, што атрыманыя грамадзянамі па аперацыях з названымі каштоўнымі паперамі, акрамя даходаў ад рэалізацыі гэтых папер па цэнах, якія перавышаюць іх намінальную вартасць, павялічаную на суму працэнтнай стаўкі, устаноўленай пры выпуску каштоўных папер, падаходным падаткам не абкладаюцца».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

19 чэрвеня 1998 г.
г. Мінск.

*СКАНДАЛ*

## ВАЕННАЯ ПРАКУРАТУРА ПРАВЯЛА ДВА ГУЧНЫЯ ЗАТРЫМАННІ: арыштаваны начальнік службы РАУ і былы начальнік факультэта ваеннай акадэміі

**Адразу два буйныя арышты праведзены Беларускай ваеннай пракуратурай: па падазрэнню ва ўчыненні злачынства затрыманы начальнік службы ракетна-артылерыйскага ўзбраення Узброеных Сіл рэспублікі і былы начальнік факультэта Ваеннай акадэміі Беларусі. Абодвум палкоўнікам, мяркуючы па ўсім, ёсць што расказаць следчым.**

Карэспандэнт газеты звязаўся з намеснікам Беларускага ваеннага пракурора Аляксандрам Піляўскім, які паведаміў аб некаторых фактах гэтых дзвюх спраў.

Былы начальнік факультэта ваеннай акадэміі абвінавачваецца ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах шляхам злоўжывання службовым становішчам. Трэба прызнаць, што дзейнічаў палкоўнік з размахам, і афера, якую ён правёў разам са знаёмым прадпрымальнікам (між іншым, камерсант таксама затрыманы), уражвае. Следчым удалося праліць святло на падзеі, якія адбываліся летам мінулага года, калі падазраваемы з'яўляўся камандзірам адной з ваенных часцей. Высветлілася, што ён разам з камерсантам з дапамогай падробленых папер выкралі «КАМаз», кошт якога ацэньваецца прыкладна каля 400 млн. рублёў. Далей машына пайшла за межы рэспублікі, дзе след яе і прастыў. Аднак, як бачна, не зусім: следству ўсё ж такі ўдалося раскапаць і гэты факт. Дарэчы, цалкам верагодна, што «парушынка» на мундзіры гэтага ваеннага чалавека не адзіная.

Што датычыцца начальніка службы ракетна-артылерыйскага ўзбраення, то ён падазраецца ў злоўжыванні службовым становішчам і захоўванні зброі і боепрыпасаў. «Заляцеў» палкоўнік, можна сказаць, на дробязі: падпісаў паперы, якія апраўдвалі спісанне вучэбных боепрыпасаў на суму каля 120 млн. рублёў. Менавіта гэтыя паперы і трапілі ў рукі супрацоўнікаў пракуратуры. Як высветлілася крыху пазней, дача і кватэра палкоўніка вельмі ўжо нагадвалі ваенны арсенал. Чаго там толькі не знайшлі следчыя: патроны, дымавыя шашкі, сігнальныя ракеты, пісталеты, карабін, гранаты.

Як паведамілі карэспандэнту газеты ў ваеннай пракуратуры, устаноўлена, што палкоўнік займаўся і крадзяжамі зброі. Хутчэй за ўсё, абвінавачанне і ў гэтым злачынстве будзе прад'яўлена начальніку службы РАУ.

І на «закуску» супрацоўнікі пракуратуры раскрылі той факт, што начальнік службы ракетна-артылерыйскага ўзбраення за сімвалічную плату набыў 100 кубаметраў дзелавога лесу. Між іншым, лес нарыхтоўвалі ваеннаслужачыя, прычым бясплатна. Іншыя акалічнасці гэтых дзвюх гучных спраў, пакуль вядзецца расследаванне, трымаюцца ў тайне.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ



**На пяты дзень вайны фашысцкая бомба трапіла прама ў будынак сталовай, дзе абедалі байцы 10-га мотастралковага батальёна НКУС, якія ахоўвалі чыгуначны мост праз раку Днепр у Рэчыцы. 18 чалавек, сярод якіх была і жанчына-повар, загінулі на месцы. Пахаваўшы іх у спешцы, нашы войскі працягвалі адступаць, а праз нейкі час ад захавання не засталося нават слядоў. І толькі больш чым праз паўстагоддзя сваячка аднаго з пахаваных байцоў прыехала ў Рэчыцу з Віцебска і паказала «пахаванку», у якой было сказана, што «за 150 метраў ад чыгуначнага моста на захад пахаваны гэтыя людзі».**

**Пошукавы атрад Міністэрства абароны, які прыбыў на месца, зрабіў некалькі шурфаў, перш чым было знойдзена месца пахавання. Знайшлі чатыры медальёны, асабістыя рэчы і нават грошы воінаў. Асоба аднаго з іх ужо ўстаноўлена, вядзецца работа па ўстанаўленню імён астатніх загінуўшых.**

**НА ЗДЫМКУ: астанкі васемнаццаці воінаў пахаваны ў брацкай магіле на беразе сівога Дняпра.**

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

23 чэрвеня з 10.00 да 18.00 у Авальнай зале Дома Урада адбудуцца парламенцкія слуханні на тэму «Праблема правоў чалавека».

24 чэрвеня ў 10.00 у зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі прадоўжыць работу чацвёртая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

## Сёння заканчваецца падпіска на «ЗВЯЗДУ» на другое паўгоддзе 1998 года .

**Нагадваем індэкс «Звязды»: 63850 — для індывідуальных падпісчыкаў, 63239 — для ведамасных падпісчыкаў.**

*Падпісная цана «Звязды»*

***на месяц — 29.000 руб. для індывідуальных падпісчыкаў, 50.000 руб. для ведамасных падпісчыкаў;***
***на 3 месяцы — 87 тысяч і 150 тысяч адпаведна;***
***на 6 месяцаў — 174 тысячы і 300 тысяч адпаведна.***

*ГЛЫБІНКА*

## СТАРАВЕРСКІ «ААЗІС»

### *Сёння ў Кіраўскім раёне жыве больш тысячы старaабрадцаў*



Старыя людзі распавядаюць, што стараверы прыйшлі на землі сучаснага Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці на пачатку XVIII стагоддзя, у часы Пятра І. Прыхільнікі старой веры і «древлего благочестия» беглі на тагачаснае памежжа ад пераследу з Архангельскай, Пскоўскай і Наўгародскай абласцей. Зваліся гэтыя перасяленцы «паморамі». Яны займалі вольную зямлю, апрацоўвалі яе, будавалі хаты і жылі абшчынамі. Напэўна, нездарма яны выбралі напрыканцы свайго доўгага шляху месца паселішча: той куток Кіраўскага раёна мала падобны на традыцыйную беларускую лясістую мясцовасць, а ад гэтай крыху ўзгорыстай раўніны ў вандроўніка сапраўды ўзнікае — хоць і падманлівае, але — пачуццё блізкасці мора.

Старaверскі «аазіс» з гадамі развіваўся і шырыўся. Спачатку была Капусцінская Слабада (зараз — проста вёска Капусціна), галоўная вуліца якой працягнулася сёння амаль на пяць кіламетраў, потым — Скрыпліца, Віктараўка, Вязаўка... Вёска Старадумаўка, таксама са старaверскага «куста», узнікла ўжо на рубяжы нашага стагоддзя, падчас сталыпінскай рэформы. Гавораць, што царскі ўрад спрабаваў крыху ўпарадкаваць рассяленне старавераў, а вось жыхары Старадумаўкі самі надумаліся і аселі там, дзе спадабалася, каля лесу, — адсюль і назва. Яны будавалі сабе жыллё, потым прыязджалі салдаты і разбуралі ўсе самавольныя пабудовы, а старадумаўцы зноў узводзілі начамі свае хаты. Потым улады стаміліся і ўжо не чапалі ўпартых старавераў. Маўляў, няхай сабе жывуць...

Вось і жывуць паморы на беларускай зямлі, захоўваючы свае старажытныя абрады і звычаі, перадаючы іх нашчадкам з пакалення ў пакаленне. Разам з павучаннямі маладыя атрымліваюць у спадчыну старажытныя стараверскія кнігі — тоўстыя, цяжкія, у драўляных вокладках, напісаныя на амаль незразумелай нам старaславянскай мове...

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*Ігар ЗЕЛЯНКЕВІЧ:*

## «ДЗЯРЖАВА ПАВІННА ЗАХАВАЦЬ СВАЕ ПАЗІЦЫІ Ў ПРАДАСТАЎЛЕННІ МЕДЫЦЫНСКАЙ ДАПАМОГІ»

***Вось ужо некалькі дзён сродкі масавай інфармацыі мусіруюць паведамленне пра маючы адбыцца напрыканцы месяца ў Мінску Першы з'езд урачоў краіны. Падзея неардынарная, і таму, каб атрымаць інфармацыю, што называецца, з першых вуснаў, карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з міністрам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігарам Зелянкевічам.***

**— Ігар Барысавіч, у чым асаблівасць гэтага з'езда ўрачоў? Якія пытанні на ім будуць вырашацца?**

— Сапраўды, у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 25—26 чэрвеня ў Мінску адбудзецца Першы з'езд урачоў Рэспублікі Беларусь. Гэта першая ў сваім родзе сустрэча ўрачоў краіны, на якую з'едуцца медыкі ўсіх спецыяльнасцяў. Акрамя 700 дэлегатаў, якіх выбіралі на сходах працоўныя калектывы ўсёй рэспублікі, у рабоце з'езда возьмуць удзел прадстаўнікі выканаўчай улады. Чакаецца прысутнасць прэзідэнта Беларусі, міністраў аховы здароўя краін СНД, Польшчы, Чэхіі, краін Балтыі...

Асноўнае пытанне, якое будзе вырашацца з удзелам шырокага кола медыкаў, — стратэгія развіцця аховы здароўя ў Рэспубліцы Беларусь.

**— Якія асноўныя праблемы сёння паўсталі перад галіной і па якому шляху, на вашу думку, павінна ісці рэформа аховы здароўя?**

— У 90-я гады ахова здароўя Беларусі, як і многіх іншых рэспублік былога Саюза, працуе ва ўмовах пастаяннага пагаршэння стану здароўя насельніцтва і недастатковага фінансавання. У той жа час фінансавыя і матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, якія мы маем, выкарыстоўваюцца не ў поўнай ступені.

Палепшыць працу галіны можна толькі пры ўмове ўдасканалення эканамічных адносінаў. Мы прааналізавалі трохгадовы вопыт укаранення ў рэспубліцы новага гаспадарчага механізма, чатырохгадовы вопыт увядзення ў Расійскай Федэрацыі бюджэтна-страхавой мадэлі аховы здароўя, а таксама вопыт арганізацыі аховы здароўя многіх еўрапейскіх краін, Канады і прыйшлі да высновы аб мэтазгоднасці рэфарміравання галіны ў рамках бюджэтнай сістэмы фінансавання. Дзяржава павінна захаваць свае пазіцыі ў прадастаўленні медыцынскай дапамогі.

Падрыхтаваны да зацвярджэння Саветам Міністраў праект канцэпцыі развіцця галіны прадугледжвае правядзенне эксперыменту ў адной з абласцей рэспублікі па фінансаванню ўстаноў у залежнасці ад якасці і аб'ёму медыцынскай дапамогі. Для гэтых мэтаў пры органах кіравання аховай здароўя будуць створаны разліковыя цэнтры фондаў развіцця, якім будуць пералічвацца бюджэтныя сродкі ў адпаведнасці з вызначанымі нормамі сярэдняга кошту медыцынскай дапамогі на аднаго жыхара. Гэтыя меры дазволяць установам зарабляць сродкі, зыходзячы з аб'ёму і якасці медыцынскай дапамогі, уводзіць новыя сістэмы аплаты працы, больш рацыянальнага і эфектыўнага выкарыстання кадравых, фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў галіны.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## СУПРАЦОЎНІЦТВА З РАСІЙСКІМІ РЭГІЁНАМІ — СТРАТЭГІЧНАЯ ЗАДАЧА БЕЛАРУСКАГА ЎРАДА

**Аб гэтым заявіў на сустрэчы з губернатарам Прыморскага края Яўгенам Наздраценкам прэм'ер-міністр нашай краіны Сяргей Лінг. Перагаворы паміж прадстаўнікамі ўрада Беларусі і расійскім госцем адбыліся 19 чэрвеня ў Савеце Міністраў нашай краіны.**

Сяргей Лінг адзначыў, што развіццё эканамічных адносінаў паміж Беларуссю і Прыморскім краем павінна развівацца больш плённа. Цяперашні ўзровень тавараабароту, які складае звыш 20 мільёнаў долараў ЗША, не можа заставацца мяжой гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва Прымор'я і нашай краіны. Прэм'ер-міністр выказаў надзею, што ў час свайго візіту губернатар зможа па заслугах ацаніць палітычныя і эканамічныя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, лепш даведаецца, у якіх напрамках двухбаковае супрацоўніцтва можа развівацца далей.

Яўген Наздраценка адзначыў, што ў Прымор'і пражывае шмат беларусаў, а ў яго ў нашай рэспубліцы засталіся маці і сястра, таму духоўныя і гістарычныя сувязі двух народаў настолькі цесныя, што палітыкам і эканамістам трэба толькі развіваць іх і ўмацоўваць.

**Вольга ШЧАДРЫНА,**
**БЕЛТА.**

## *ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ, ФЕСТЫВАЛЬ!*

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам пятага фестывалю беларускай паэзіі і песні «Маладзечна-98», адрасаваўшы ім і ўсім тым, хто стварае гэта сапраўднае свята мастацтваў, любіць і беражліва адносіцца да беларускай песні і роднага слова, самыя цёплыя словы.

«Бясспрэчна, фестывальнае паэтычнае слова і музыка хвалююць сэрцы людзей, напаўняюць нашу рэчаіснасць духоўным святлом і прыгажосцю», — гаворыцца ў прывітанні кіраўніка дзяржавы. Ён выказаў упэўненасць, што гэты фестываль створыць для шматлікай аўдыторыі гледачоў атмасферу свята, прадэманструе дасягненні лепшых выканаўцаў, музыкантаў і кампазітараў.

Аляксандр Лукашэнка пажадаў удзельнікам фестывалю новых плённых творчых дасягненняў.

**БЕЛТА.**

*Спецыяльна для «Звязды»*

## Настаў час зводзіць масты

**Учора ў апошні дзень работы Санкт-Пецярбургскага эканамічнага форуму, 19 чэрвеня, дзверы беларускага прадстаўніцтва ў Таўрычаскім палацы амаль не зачыняліся. Сюды спяшаліся перад ад'ездам зазірнуць многія з яго удзельнікаў. Знаёміліся, абменьваліся адрасамі і прасілі дапамагчы раздабыць выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, маўляў, у прэс-цэнтры усюдыісныя прадстаўнікі СМІ ўсё разабралі...**

«Сапраўды, асноўны лейтматыў форуму, які можна выказаць характэрнай для горада на Няве фразай: «Час зводзіць масты», найбольш ярка прагучаў у выступленні прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі», — лічыць старшыня камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па эканоміцы, бюджэту і фінансах Міхаіл Матусевіч.

На пленарных пасяджэннях і «круглых сталах», якіх тут адбылося 28, разглядаліся праблемы развіцця эканамічнай інтэграцыі дзяржаў — удзельніц СНД, выпрацоўкі ўзгодненай палітыкі правядзення рынечных пераўтварэнняў, прававога рэгулявання эканамічных пераўтварэнняў.

Тут не было канкрэтных рэцэптаў. Пункты гледжання на вырашэнне той ці іншай праблемы не супадалі часам нават у членаў адной дэлегацыі. «Аднак мы, члены беларускай каманды, — прызнаўся Міхаіл Матусевіч, адчувалі шчырае задавальненне: беларускі вопыт рэформаў практычна ніхто не аспрэчваў, прапановы, выказаныя нашым прэзідэнтам, падтрымліваліся аднадушна ўсімі ўдзельнікамі з краін СНД. І мы яшчэ раз пераканаліся ў правільнасці тых эканамічных пераўтварэнняў, якія праводзім у рэспубліцы.

У свой час мы, вобразна кажучы, не кінуліся ў вір модных рыначных рэформаў і змаглі ў сваёй краіне захаваць тыя структуры, тую вытворчасць, якія, як паказаў час, у цяперашніх умовах даюць найбольшы эфект. Наша дзяржава не пакінула прадпрыемствы сам-насам са сваімі праблемамі, праводзіць пэўны дзяржаўны маркетынг у пошуках рынку збыту для вырабляемай прадукцыі. Прычым самім беларусам гэта ставілі ў прыклад расіяне, якіх беларуская эканамічная палітыка рэгіянальнага супрацоўніцтва проста захапляе. Складваецца такое ўражанне, што эйфарыя ад дзікага рынку, у які кінуліся многія рэспублікі былога СССР, незваротна мінула».

Пецярбургскі эканамічны форум становіцца магутным сродкам паглыблення інтэграцыйных працэсаў, лічыць Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук. Яго асноўнай мэтай стала абмеркаванне канкрэтных мераў па прававому забеспячэнню эканамічнай інтэграцыі, ажыццяўленню ўзгодненай палітыкі рыначных пераўтварэнняў, узаемадзеяння краін СНД з прамыслова-фінансавымі структурамі іншых дзяржаў. На форуме былі прадстаўлены рэгіянальныя інвестыцыйныя праекты, эфектыўнасць і абгрунтаванасць якіх павінны прыцягнуць сродкі ў айчынную эканоміку.

Цалкам абгрунтавана жаданне палітычных і дзяржаўных дзеячаў паскорыць гэты працэс, адзначае Павел Шыпук. Але без сур'ёзнай работы па ўзгадненню, каардынацыі заканадаўстваў нельга хутка вырашаць пытанні, звязаныя з інтэграцыяй. Неабходна развіваць сістэму ўзаемнай інфармацыі аб планах і праграмах законапраектных работ, выпрацаваць у рамках МПА СНД, пад эгідай якой адбыўся пецярбургскі форум, канкрэтную агульную канцэпцыю і праграму збліжэння заканадаўстваў, надаўшы ёй абавязковы характар на нацыянальным узроўні. Пецярбургскі форум яшчэ раз пераканаў нас у тым, што работа па збліжэнню заканадаўстваў, перш за ўсё ў падатковай сферы, у галіне энергетыкі, транспарту і сувязі, банкаўскай дзейнасці, увядзення адзіных прынцыпаў фарміравання тарыфнай палітыкі, павінна стаць больш аператыўнай і эфектыўнай.

На заключным пленарным пасяджэнні форуму былі падведзены вынікі дыскусій за «круглым сталом». Адносна перспектыў развіцця СНД іх удзельнікі, у прыватнасці, прапанавалі:

— цэнтр цяжару ў развіцці гаспадарчых і асабліва кааператыўных сувязяў усё больш павінен пераносіцца ў субрэгіянальныя аб'яднанні;

— рэспублікам, краям і абласцям і іншым тэрытарыяльным утварэнням, якія ўваходзяць у рэспублікі Садружнасці, прадаставіць адэкватныя правы ў арганізацыі гандлёвых, вытворчых, інвестыцыйных і іншых адносінаў на рэгіянальным узроўні;

— прывесці прававую базу інтэграцыі ў адпаведнасць з новымі патрабаваннямі і задачамі рэфарміравання ўсёй дзейнасці Садружнасці.

**Прэс-служба Савета Рэспублікі**
**Нацыянальнага сходу**
**Рэспублікі Беларусь.**

***21 чэрвеня 1998 года медыцынская грамадскасць адзначае сваё прафесійнае свята Дзень медыцынскага работніка. Гэты дзень сапраўды можна лічыць усенародным святам. Няма большай каштоўнасці, чым здароўе чалавека, таму справа гонару кожнага грамадзяніна — беражліва ставіцца да свайго здароўя і здароўя іншых людзей.***

*Паважаныя медыкі!*

З удзячнасцю адносіцца народ Рэспублікі Беларусь да вашай гуманнай і высакароднай працы. Высокі прафесіяналізм, спагада і гатоўнасць прыйсці на дапамогу хворым у любую хвіліну ўласцівыя людзям у белых халатах.

Ваша самаадданая праца на карысць народа асабліва заўважная зараз, калі галіна аховы здароўя перажывае сур'ёзныя цяжкасці: матэрыяльна-тэхнічная база і аснашчанасць устаноў аховы здароўя не адпавядаюць узроўню развіцця сучаснай медыцыны, фармацэўтычная прамысловасць не можа забяспечыць патрэбнасці насельніцтва ў лекавых сродках у поўным аб'ёме, не хапае фінансавых сродкаў на капітальнае будаўніцтва і падрыхтоўку спецыялістаў.

Аднак дзякуючы намаганням урачоў, сярэдняга, малодшага медыцынскага і абслуговага персаналу ўстаноў аховы здароўя, вучоных і педагогаў навукова-даследчых і навучальных устаноў медыцынская дапамога насельніцтву аказваецца на высокім прафесійным узроўні.

Асаблівую ўдзячнасць людзі выказваюць медыцынскім работнікам лячэбна-прафілактычных устаноў, размешчаных на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях, тым, хто ўдзельнічае ў правядзенні медыцынскіх мерапрыемстваў па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Нізкі паклон самай цудоўнай частцы медыцынскіх работнікаў — жанчынам! Ваша душэўная цеплыня, абаяльнасць, ласка і прафесійная патрабавальнасць валодаюць гаючымі якасцямі і з'яўляюцца вызначальнымі ў лячэбным працэсе.

Жадаю Вам і вашым пацыентам, родным і блізкім моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту, а таксама творчых поспехаў у Вашай высакароднай справе, ахове здароўя народа.

**Намеснік Старшыні Палаты**
**прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу**
**Рэспублікі Беларусь**
**Уладзімір КАНАПЛЁЎ.**

## Павел Крал закончыў сваю місію

**Учора прадстаўнік ААН у Беларусі Павел Крал урачыста развітаўся з сябрамі, калегамі, знаёмымі. Днямі ён ад'язджае на новае месца працы ў Ташкент.**

Сімвалічна, што месцам развітальнай вечарыны ён выбраў Дом дружбы. Тут неаднаразова праходзілі ААНаўскія мерапрыемствы. Вось і ўчора ў яго ўтульным памяшканні да афіцыйнага развітання кіраўніка прадстаўніцтва ААН была прымеркавана прэзентацыя выдання Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека для дзяцей і мастацкай выстаўкі «Чалавек мае права», прысвечанай 50-годдзю гэтай дэкларацыі. Дарэчы, яе фотараздзел быў сфарміраваны з работ вядомага беларускага майстра, фотакарэспандэнта «Звязды» Анатоля Клешчука.

Тры гады працаваў Павел Крал у нашай краіне. Ён быў прыметнай фігурай дыпламатычнага корпуса ў Мінску. Гэты сімпатычны, абаяльны і добразычлівы чэх шмат зрабіў для Беларусі. Пры ім значна пашырылася работа прадстаўніцтва ААН з грамадскімі арганізацыямі, былі рэалізаваны шэраг эканамічных і гуманітарных праектаў. Дастаткова назваць усталяванне сеткі Інтэрнэта, падтрымку малога бізнесу, адукацыйную праграму для журналістаў, істотную дапамогу ў барацьбе са СНІДам у Светлагорску. І для сябе Павел Крал нямала набыў у Беларусі. У першую чаргу — вопыт працы ў адной з групы так званых «новых незалежных дзяржаў» і самае галоўнае — шмат сяброў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*XVI чэмпіянат свету па футболу*

## Французы б'юць саперніка класам і выніковасцю

**Зборная Францыі стала другой камандай чэмпіянату свету па футболу, якая датэрмінова выйшла ў 1/8 фіналу. Гэта стала ясна пасля таго, як гаспадары турніру больш чым упэўнена перайгралі футбалістаў Саудаўскай Аравіі -- 4:0.**

«Я, канешне, шчаслівы, што атрымана перамога і заваявана пуцёўка ў наступны круг. Мы згулялі ў татальны і калектыўны футбол, -- заявіў пасля матча трэнер французаў Эме Жаке. -- Але засталася яшчэ адна сустрэча са зборнай Даніі. Трэба выйграваць яе і не займацца матэматычнымі разлікамі. Мы не рэалізавалі вельмі многа гульнявых момантаў, хоць дамінавалі на полі. Усё было б добра, калі б не траўма Дзюгары, якая выглядала даволі сур'ёзнай... Да гэтага ж прыбавілася выдаленне Зідана».

«Я не заслужыў «чырвонай карткі», -- запэўнівае балельшчыкаў Зіледзін Зідан. Дарэчы, гэтаму футбалісту многія прадказвалі лаўры галоўнай зоркі чэмпіянату. Да таго ж Зідан стаў першым французам, выдаленым з поля ў фінальных турнірах на Кубак свету.

Праўда, галаўны боль зборнай Францыі зусім не хвалюе яе балельшчыкаў, якія да трох гадзін раніцы на вуліцах Парыжа святкавалі перамогу. Віншаванне французскай камандзе з пажаданнямі далейшых поспехаў неадкладна адправіў і прэзідэнт Францыі Жак Шырак.

Матч паміж зборнымі Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і Даніі завяршыўся ўнічыю -- 1:1. Гэтыя дзве каманды і з'яўляюцца прэтэндэнтамі на другую пуцёўку ў групе «С».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне, Брэсце і Мінску — 16—18, Віцебску — 19—21, Магілёве, Гомелі — 20—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі; 21-га ўначы — па ўсходу, 22-га — па поўначы рэспублікі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень 21-га — 18—23, 22-га — 21—26 градусаў вышэй нуля.

## Як ацэньваюць суддзі праблему захавання ў Беларусі правоў чалавека

*Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь правёў у чэрвені экспертнае апытанне судзейскага корпуса Рэспублікі Беларусь па праблеме захавання ў рэспубліцы правоў чалавека.*

*У апытанні ўзялі ўдзел 50 рэспандэнтаў, якія прадстаўлялі розныя судова-прававыя інстанцыі ў Мінску і абласных цэнтрах. Рэспандэнты выказалі сваю думку на шэраг прынцыповых і асноватворных момантаў захавання законнасці ў галіне правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Вось толькі некаторыя, найбольш актуальныя даныя гэтага даследавання грамадскай думкі.*

Так, на пытанне: «Ці адпавядаюць палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія датычаць правоў і свабод грамадзян, міжнародным стандартам?» адказы рэспандэнтаў размеркаваліся наступным чынам:

1. Адпавядаюць поўнасцю — 90 працэнтаў
2. Адпавядаюць не ў поўным аб'ёме — 6 працэнтаў
3. Не адпавядаюць — 2 працэнты
4. Цяжка адказаць — 2 працэнты.

Аналіз адказаў на пытанне аб тым, якія з правоў чалавека (грамадзянскія, палітычныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя) у найбольшай ступені захоўваюцца ў рэспубліцы, паказаў, што ў найбольшай ступені ў рэспубліцы захоўваюцца культурныя правы чалавека — за гэта выказаліся 92 працэнты апытаных (захоўваюцца не ў поўным аб'ёме — 6 працэнтаў, цяжка адказаць — 2 працэнты).

Потым ідуць сацыяльна-эканамічныя правы — 86 працэнтаў апытаных выказаліся «за» іх поўнае захаванне (захоўваюцца не ў поўным аб'ёме — 8 працэнтаў, цяжка адказаць — 6 працэнтаў).

Затым грамадзянскія — 82 працэнты апытаных выказаліся «за» іх поўнае захаванне (захоўваюцца не ў поўным аб'ёме — 10 працэнтаў, цяжка адказаць — 8 працэнтаў).

У найменшай ступені захоўваюцца палітычныя правы чалавека — 74 працэнты апытаных выказаліся «за» іх поўнае захаванне (захоўваюцца не ў поўным аб'ёме — 18 працэнтаў, цяжка адказаць — 8 працэнтаў).

На пытанне аб тым, ці адпавядаюць цяперашнія пабудова і дзейнасць судова-прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь абароне правоў і свабод грамадзян, адказы размеркаваліся наступным чынам:

1. Адпавядаюць поўнасцю — 82 працэнты
2. Адпавядаюць не ў поўным аб'ёме — 8 працэнтаў
3. Не адпавядаюць — 4 працэнты
4. Цяжка адказаць — 6 працэнтаў

На пытанне: «У які бок змянілася становішча ў галіне захавання правоў і свабод чалавека ў 1998 годзе ў параўнанні з 1994 годам?» былі атрыманы наступныя адказы: 68 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што ў лепшы, 16 працэнтаў лічаць, што кардынальных змен не адбылося, 6 працэнтаў лічаць, што сітуацыя пагоршылася, 10 працэнтам апытаных цяжка было адказаць на гэтае пытанне.

Прыведзеныя даныя паказваюць, што, на думку экспертаў, у галіне правоў і свабод чалавека дзеючая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь практычна поўнасцю адпавядае міжнародным стандартам у гэтай галіне. Тым не менш, супастаўленне адказаў на гэтае і іншыя пытанні анкеты паказала, што ў судова-прававой сістэме рэспублікі існуе адчувальны разрыў паміж нормамі Асноўнага закона краіны і штодзённай практыкай прыняцця рашэнняў у гэтай галіне. Асабліва гэтая выснова датычыць захавання палітычных правоў і свабод.

Аналіз адказаў на пытанне аб тым, ці адпавядаюць цяперашняя будова і дзейнасць судова-прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь абароне правоў і свабод грамадзян, паказвае, што судзейскі корпус адэкватна ацэньвае сваю дзейнасць у гэтай галіне.

Галоўнай высновай гэтага даследавання можна лічыць атрыманыя адказы на апошняе пытанне, што прыводзілася ў апытанні, аб тым, у які бок змянілася становішча ў галіне захавання правоў і свабод чалавека ў 1998 годзе ў параўнанні з 1994 годам. Гэтыя адказы паказваюць, што сітуацыя ў галіне захавання правоў і свабод чалавека ва ўказаны прамежак часу змянілася ў лепшы бок, што прызнаецца большасцю апытаных.



## *Віншаванні*

Віншую з днём нараджэння любую матулю **Марыю Сяргееўну ГУРЫНОВІЧ** з в. Зарэчнае. Жадаю моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

**Сям'я Варанцовых,** *г. Ст. Дарогі.*

Урачоў **Дануту ПАРФІНОВІЧ** і **Станіслава МАМЧЫЦА** шчыра віншую са святам медыкаў.

**А. Жалкоўскі**, г. *Ліда*

Шчыра віншуем **калектыў Каменскай бальніцы** са святам медыкаў. Жадаем поспехаў у працы і шчасця ў жыцці.

**Сям'я Бекішаў.**

Віншуем дарагіх дактароў **Наталлю Іванаўну ЗАКРЭЎСКУЮ** і **Ірыну Віктараўну САЎЧАНКА** з днём медработніка. Жадаем вам здароўя і ўсіх зямных даброт.**Вам абавязаныя —**

**хворыя з Гомельскага анкалагічнага дыспансера (аддз. хіміятэрапіі).**

Віншуем нашага доктара **Людмілу Аляксандраўну БРУЙ** з днём медыка. Жадаем здароўя, шчасця, бадзёрасці, сямейнага дабрабыту. Шчыра дзякуем за вашы клопаты аб нашым здароўі, за добрае сэрца.

**Жыхары в. Засулле Стаўбцоўскага раёна.**



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# «ДЗЯРЖАВА ПАВІННА ЗАХАВАЦЬ СВАЕ ПАЗІЦЫІ Ў ПРАДАСТАЎЛЕННІ МЕДЫЦЫНСКАЙ ДАПАМОГІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Ігар Барысавіч, але ж рэфарміраванне аховы здароўя ўжо пачалося. Пра рэформы гаварыла яшчэ ваша папярэдніца на пасадзе міністра аховы здароўя Інеса Драбышэўская, аднак адчувальнага прагрэсу дагэтуль няма...**

— Згодны, ніякія меры па ўдасканаленню галіны не будуць дастаткова эфектыўнымі ў плане ўплыву на здароўе насельніцтва, калі яны не будуць узаемазвязаны з дзейнасцю ўсіх органаў дзяржаўнага кіравання ў галіне аховы здароўя. Істотна змяніць сітуацыю з вырашэннем гэтай праблемы павінна распрацаваная Міністэрствам аховы здароўя праграма «Здароўе нацыі». У ёй вызначаны асноўныя задачы ў стратэгіі аховы здароўя, сярод якіх «здаровы старт» у жыцці, здароўе людзей старэйшага ўзросту, сексуальнае здароўе, здароўе інвалідаў, памяншэнне ўрону ад алкагалізму, наркаманіі і курэння, здаровыя ўмовы працы і навакольнае асяроддзе і інш. Нават пералік гэтых накірункаў указвае на іх яўную сацыяльную накіраванасць. Вельмі важным з'яўляецца тое, як мы зможам рэалізаваць усё гэта на практыцы.

Акрамя дзяржаўнай праграмы «Здароўе нацыі», павінен быць прыняты закон «Аб здароўі народа», які вызначыць асновы міжведамаснага супрацоўніцтва, размеркавання функцый і адказнасці ў галіне аховы здароўя насельніцтва, пераарыентацыю дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання, міністэрстваў адукацыі, спорту і турызму, аховы здароўя на актыўнае фарміраванне ў насельніцтва здаровага ладу жыцця.

Падобныя заканадаўчыя акты маюцца ў заканадаўчай сістэме многіх краін свету. У той жа час прыняты ў нас у 1993 годзе Закон «Аб ахове здароўя» мае пераважна ведамасную накіраванасць. Важнае значэнне мае фарміраванне ў цэлым дзяржаўнай палітыкі ў галіне аховы здароўя, якая вызначыць прыярытэтнасць яе развіцця на падставе прыярытэтнасці фінансавання, павышэння долі выдаткаў на ахову здароўя ў адносінах да валавога прадукту.

**— Аднак, як паказвае практыка, чыста адміністрацыйных мераў для павелічэння якасці медыцынскай дапамогі ўсё ж недастаткова...**

— Акрамя эканамічнага стымулявання, рэфарміравання сістэмы прафесійнай дзейнасці медыцынскіх работнікаў, важнае значэнне маюць уласнае сумленне медыцынскага работніка і адносіны калег. За апошнія 5-6 гадоў зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва не толькі пагоршыла дэмаграфічныя паказчыкі і ўскладніла дзейнасць галіны аховы здароўя, але і абвастрыла маральна-этычныя адносіны ў грамадстве. Псіхалогія рыначных адносінаў стымуліруе эгаістычныя настроі ў грамадстве, паслабляе спачуванне. Часцей сталі праяўляцца душэўная чэрстваcць, няўвага, а часам — грубасць і прафесійная халатнасць нават сярод медыцынскіх работнікаў.

Менавіта таму Міністэрства аховы здароўя падтрымала ініцыятыву Беларускай асацыяцыі ўрачоў па распрацоўцы першага ў гісторыі Беларусі «Кодэкса ўрачэбнай этыкі». Праект кодэкса шырока абмяркоўваўся ў друку і зараз выносіцца на канчатковы разгляд з'езда. Магчыма, яшчэ не ўсе палажэнні і фармулёўкі ў ім дастаткова дакладныя і бясспрэчныя. Але нават у такім выглядзе кодэкс, несумненна, прынясе карысць як медыцынскім работнікам, так і нашым пацыентам, і сістэме аховы здароўя ў цэлым. Галоўнае, каб у кожнай медыцынскай установе, а таксама на раённым і абласным узроўні былі створаны камісіі па этыцы. Менавіта яны павінны даваць ацэнку ўсіх парушэнняў. Думаю, на дадзеным этапе гэты накірунак дзейнасці павінен быць прыярытэтам для Беларускай асацыяцыі ўрачоў. Нельга забывацца на векавыя ўрачэбныя традыцыі — прафесіяналізм, прынцыповасць, павагу правоў пацыента і многае іншае.

**— Якія справы з навуковай падтрымкай рэфарміравання аховы здароўя?**

— На жаль, у апошнія гады знізіўся прэстыж і ўплыў навуковых медыцынскіх таварыстваў і клінічных школ. Некаторыя з іх згарнулі сваю дзейнасць да мінімуму. Не выратавала становішча і рэарганізацыя шэрагу навуковых таварыстваў у рэспубліканскія аб'яднанні са статутам юрыдычнай асобы.

Малазразумелае стварэнне новых грамадскіх медыцынскіх арганізацый. Некаторыя з іх абараняюць інтарэсы невялікіх груп, а часам праследуюць пераважна камерцыйныя мэты.

Ёсць за што крытыкаваць і Беларускую асацыяцыю ўрачоў. Складваецца ўражанне, што пра асацыяцыю больш ведаюць за мяжой, чым у краіне. І гэта нягледзячы на тое, што ў састаў Савета асацыяцыі выбраны аўтарытэтныя спецыялісты ад усіх абласцей рэспублікі. Яе актывісты прымалі ўдзел у падрыхтоўцы шэрагу праектаў законаў і іншых важных дакументаў па ахове здароўя, праводзілі грамадска значныя акцыі. Асацыяцыя выдае часопіс «Медицина», рэгулярна ўдзельнічае ў рабоце Еўрапейскага форуму медыцынскіх асацыяцый і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, з'ездаў урачэбных палат Германіі і Польшчы. Аднак пераважная большасць урачоў застаюцца па-за актыўнай грамадскай дзейнасцю. Гэта трэба выпраўляць.

Асаблівае значэнне мы надаём рабоце Беларускай акадэміі медыцынскіх навук (БАМН). Створаная на грамадскіх пачатках, БАМН ужо здолела сябе станоўча праявіць. Вельмі хацелася б, каб акадэмія не толькі забяспечыла навуковую падтрымку рэфарміравання галіны, вызначыла прыярытэты развіцця медыцынскай навукі, стварыла экспертызу навукова-даследчых і навукова-праектных работ, але і рэалізавала вырашэнне гэтых задач. Улічваючы ролю навукі ў медыцыне, Міністэрства аховы здароўя звярнулася з прапановай аб унясенні ў праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб рэфарміраванні навукова-тэхнічнага комплексу рэспублікі» пункта аб наданні БАМН статута дзяржаўнай галіновай навуковай арганізацыі Беларусі.

Яшчэ раз зазначу, што толькі комплексны падыход да ўдасканалення аховы здароўя з'яўляецца рацыянальным, і на гэтым шляху ў нас ёсць вялікія рэзервы і магчымасці ў павышэнні ўзроўню і якасці медыцынскай дапамогі насельніцтву. Менавіта пра гэта пойдзе размова на першым з'ездзе ўрачоў Рэспублікі Беларусь.

Як вядома, заўтра краіна будзе адзначаць Дзень медыцынскага работніка. Упершыню вялікая група навукоўцаў, урачоў-практыкаў, сярэдніх медыцынскіх работнікаў будзе ўзнагароджана ганаровым знакам «Выдатнік аховы здароўя Рэспублікі Беларусь». Ад сябе асабіста, ад імя міністэрства хачу павіншаваць усіх работнікаў галіны аховы здароўя з нашым прафесійным святам і яшчэ раз падзякаваць за самаадданую, высакародную працу.

**Гутарыў Сяргей ПРОТАС.**

***НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ***

***Людміла РУБЛЕЎСКАЯ***

# ЭКСКУРСАВОД



***Калі чытаю якісь новы твор Люды Рублеўскай, заўсёды згадваю, што ў нас з ёю крыху падобны шлях уваходжання ў літаратуру. У 1990 годзе мы выдалі першыя свае кніжкі, у тым жа годзе нас прынялі ў Саюз пісьменнікаў, прычым з 19 кандыдатаў толькі за нас з Людаю не было ніводнага голасу супраць.***

***Потым народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч прысвяціў ёй верш, які быў надрукаваны ў «ЛіМе», і на гэтым нашае «падабенства» скончылася, бо мне Ніл Сымонавіч верша не прысвяціў... Гэта жарт. А калі сур'ёзна, прыемна здзіўляе, адкуль у карэннай мінчанкі такое (насуперак школьнаму афіцыёзу і рускамоўнаму асяроддзю) веданне і такая любоў да сваёй мовы, сваёй гісторыі?..***

***Магчыма, адказ на гэта часткова і ў нашым апавяданні.***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

Палкаводзец нічога не ведаў пра Паэта.

Не дзіўна — у часе яны амаль не сутыкнуліся. Паэт нарадзіўся ў старажытным радавым маёнтку на заходніх крэсах вялікай імперыі тады, калі састарэлы Палкаводзец, амаль аглухлы ад некалькіх кантузій, скручаны раматусам і цяжарам царскіх узнагарод, яшчэ наведваў вялікасвецкія балі, але ўжо не для таго, каб таньчыць. Палкаводзец уладкоўваўся ў ганаровым фатэлі, паблажліва прымаў лісліўыя кампліменты, якіх усё роўна не чуў, і доўга сядзеў так, сівы, няўклюдны пугач у яркім святле соцень свечак, усё яшчэ пагрозны і магутны... Ён спазнаў шмат славутых, амаль неверагодных перамог, і аднойчы пратрубілі яму залатыя трубы Ніке ў той мясціне, дзе суджана было нарадзіцца Паэту. Палкаводзец заняў пад свой штаб маёнтак недабітых ворагаў — дзеда і бацькі Паэта, і некалькі дзён яго дзябёлыя ад'ютанты забаўляліся стралянінай па залатых галоўках купідонаў на столі...

І гэта мінулася...

Уладары маёнтка вымалілі дараванне ва ўладаў, і Паэт нарадзіўся і жыў у радавым гняздзе. Тут спазнаў першае нешчаслівае каханне, адсюль з'ехаў у вялікі свет, які не песціць ні паэтаў, ні палкаводцаў, але толькі — Імя. Паэт любіў сваю зямлю; дзівак — ён ажыўляў яе мову, яе абылганую гісторыю. І калі Айчына паклікала яго — пайшоў за яе ў безнадзейную, загадзя прайграную бойку. І загінуў. І імя яго засталося амаль невядомым.

Прынамсі, для мяне.

Трапіла я ў дом адпачынку, галоўны корпус якога месціўся ў старым маёнтку, яшчэ ў той час, калі існавалі ўсёмагутныя прафкамы і парткамы, і пуцёўка амаль нічога не каштавала. Як маладому спецыялісту, мне не маглі прапанаваць нічога больш шыкоўнага. Аднак і гэта было цудоўна — двухпавярховы доўгі будынак з беленымі калонамі хаваўся ў прысадах векавых ліпаў, пад вокнамі буяў бэз, за рэшткамі каванай агароджы пачынаўся адхоп да рэчкі — некалі яна па выкапаных ірвах мусіла аббягаць маёнтак. Але ён, маёнтак, даўно аддадзены на міласць усіх і не мае больш патрэбы ў стыхійных вартавых. Сцены пакояў пакрывала невыразная крэйдавая фарба, ляпніну на столі замазалі пабелкай, а паколькі пабелка рэгулярна ўзнаўлялася па старым, патрэсканым слоі, на скульптурных выгінах яна наклалася так густа, што нельга было адрозніць ніводнай выявы — замест анёльскіх тварыкаў — бясформенныя шэра-белыя камякі.

Нас, новых «адпачываючых», папярэдзілі, што дом — помнік архітэктуры, таму на яго тэрыторыі нельга нічога чапаць. А таксама, што ў галоўным корпусе працуе унікальны музей, прысвечаны асобе Паэта, які калісьці тут нарадзіўся.

Уваход у музей быў з асобнага ганка з калонамі, амаль схаванага ў бэзавых зарасцях. Паўцёмны пакойчык нібы ад мінулага стагоддзя. Сціплая арыстакратычная мэбля, карункавыя сурвэткі, клавесін. З пажоўклых фотаздымкаў глядзяць светлыя, строгія твары: жанчыны ў цёмных сукенках з белымі каўнерыкамі і манжэтамі, мужчыны ў паляўнічых капелюшах з заліхвацкімі пёркамі наўскос і ў «канфедэратках».

Якія тады былі твары!

І паўсюль — партрэты сумнага цемнавокага юнака. Я здагадалася, што гэта і ёсць — Паэт... Раптам падалося, што ён, гаспадар пакоя, вось-вось павінен зайсці сюды...

— Так, ён тут прысутнічае, — прагучаў голас аднекуль з цемры і я ледзь не падскочыла ад нечаканасці. Да мяне наблізілася худзенькая дзяўчына ў светлай шалі паўзверх зялёнай доўгай сукенкі — нібыта сама са старога фотаздымка. — Я часта адчуваю яго прысутнасць тут... Ведаеце, ён любіў сюды прыходзіць. Глядзеў на бэз, пісаў лісты да каханай, вершы, прысвечаныя ёй... Вы ж, напэўна, ведаеце гэтую дзівосную гісторыю?

Я не ведала. І ў аповедзе маёй нечаканай экскурсаводкі ажыў малады таленавіты нашчадак збяднелага, няўгоднага ўладам роду, безнадзейна закаханы ў багатую суседку. Мройлівы, хваравіты, «не ад гэтага свету», — але такі прыгожы і адчайна смелы. У яго былі далікатныя тонкія пальцы і лёгкая хада патомнага паляўнічага. Ён любіў кветкі-касачы і мог гадзінамі — можа, пад уплывам улюбёнага нямецкага рамантыка Навaліса? — трымаць у руках сінюю кветку і ўглядацца ў яе...

Дзяўчына цытавала вершы — нязграбныя на сучасны слых, з нейкім ламаным рытмам і доўгімі, як павольны ўзмах антычнага вясла, радкамі.

— Ад яго засталося няшмат твораў. Але гэта быў Паэт.

Апавядальніца запаліла свечку на высокім драўляным століку з вітой ножкай, павольна паднесла яе да партрэта, які хаваўся ў самым неасветленым куце. З паўзмроку ясна зірнулі вялікія чорныя вочы... Не, не чорныя — цёмна-цёмна-сінія, як прадонне... Мая Радзіма — неспазнаная, неўсвядомленая, — глядзела на мяне, у мяне.

Задаволеная эфектам, дзяўчына загасіла свечку, паставіла на месца. Толькі тут я заўважыла, што ў экскурсаводкі моцна скошанае вока. Але гэта нібы і не псавала яе шырокі ў выліцах, мілы тварык.

— Запрашайце ўсіх астатніх у наш музей, калі ласка...

Я хадзіла туды кожны дзень. Дзяўчыну звалі Марына. Яна адна выхоўвала сына, трапіла сюды па размеркаванні з бібліятэчнага факультэта. Але ў бібліятэцы ёй цяпер маглі прапанаваць толькі палову стаўкі, і Марына ўхапілася за ідэю музея. Многае ў гэтым пакойчыку створана яе рукамі, многае адстаяна ў жорсткіх «баталіях» з адміністрацыяй...

Я захаплялася Марынай. Энтузіястка, яна ўмела абудзіць у наведніках цікавасць да айчыннай гісторыі, да асобы Паэта. Колькі ведала пра яго, пра нашу культуру!

Непагоднымі начамі бэз цяжкімі гронкамі біўся ў шыбы майго казённага часовага пакойчыка, і мне здавалася, што Паэт — там, у цёмнай пене лістоты і кветак, глядзіць на мяне глыбокімі, як прадонні азёр, вачыма.

Перад ад'ездам мы ўсе, «адпачываючыя», зайшлі ў музей да Марыны і напісалі шмат добрых слоў у кнігу водгукаў, і пакінулі для яе сыночка няхітрыя пачастункі — у каго што было.

І ад душы наламалі ў дарогу пышнага бэзу — дагані, суровая адміністрацыя!

І гэта прамінула.

Шмат давялося мне пасля ламаць сябе, многае змяняць у сваіх пасляшкольных уяўленнях... Шмат давялося працаваць, каб знайсці, адкрыць для сябе сваю Радзіму. Я загаварыла на яе мове і даведалася пра яе паэтаў і пра яе палкаводцаў, не менш славутых, чым тыя, што ўганароўваліся на вялікасвецкіх балях. Але забытых, згубленых у цёмных пакоях закінутых маёнткаў і палацаў...

І заўсёды з прыемнасцю ўспаміналa дні, праведзеныя ў тым доме адпачынку, паўцёмны музейны пакой і ўзнёслую дзяўчыну-экскурсаводку.

Лёс даў мне магчымасць зноў паехаць туды. На гэты раз я была не адна — з сям'ёй. Канешне, у першы ж дзень мы накіраваліся ў музей. Знаёмы ганак, дзверы расчынены, і — о, цуд! — чуваць голас Марыны.

— Так, ён тут прысутнічае! Я часта гэта адчуваю. Па сведчанні сучаснікаў, ён любіў сядзець тут, перад гэтым акном, глядзець на бэз, на стройныя ліпавыя прысады — тады яны былі яшчэ зусім маладзенькія... Напэўна, староннi глядач ніколі б не падумаў, што гэты самотны мройнік можа быць мужным ваярoм, бездакорным рыцарам свае Айчыны...

Мы ўвайшлі ў пакой. Перад невялікай купкай наведнікаў стаяла Марына. Распаўнелая, але гэткая ж узнёслая, у светлай шалі і цёмнай сукенцы, толькі валасы набылі парфумна-белы колер... Але... Хаця мэбля, і клавесін, і сурвэткі засталіся на ранейшых месцах, усё непазнавальна змянілася. На стэндах жаўцелі фоткі з выявамі фігур у мундзірах, у рамках пазалочанага багету красаваўся яркі батальны жывапіс, а з партрэтаў паглядаў не цемнавокі Паэт, а таўсматы сівы стары ў напудраным парыку і мундзіры, спрэс увешаны ордэнамі. І сталёвы пагляд з-пад кусцістых броваў...

— Што тут такое? — вырвалася ў мяне сакраментальнае пытанне, хаця і так усё было зразумела. Марына пачула, перарвала натхнёны аповяд і, — зразумела, яна мяне не пазнала, — адказала з лёгкім дакорам:

— Тут — музей Палкаводца. Вы ж, напэўна, чулі, што гэты вялікі чалавек тут жыў?

— А як жа Паэт?

Марына спакойна патлумачыла:

— Некаторыя звесткі пра былых уладароў маёнтка ёсць у мясцовым краязнаўчым музеі, у райцэнтры. На жаль, наша памяшканне не дазваляе пашыраць экспазіцыю.

Я паназірала за ёю — яна не прыкідвалася. Яна сапраўды была ўзнёслая і натхнёная. І ёй сапраўды было ўсё роўна, ці захапляцца мясцовым Паэтам-інсургентам, ці Палкаводцам-утаймавальнікам. Аб'ектыўна, канешне, другі пераўзыходзіў славаю першага...

У куце сядзеў светлавалосы падлетак і меланхалічна грыз чырвоны яблык. У хлопца былі гэткія ж блізка пасаджаныя вочы і шырокія выліцы, як у Марыны. Так, трэба зарабляць на хлеб. Трымацца працы. Прыдумваць сабе працу, а калі яе няма, даказваць яе патрэбнасць.

Можа быць, Радзіма мая глядзіць на мяне не праз цёмныя вочы памерлага Паэта, а вось цяпер, праз шэрыя, блізка пасаджаныя вочы сына экскурсаводкі?

Мы больш не наведвалі музей. За вокнамі нашага пакоя, як і калісьці, клубіўся духмяны бэзавы туман, цяжкія гронкі стукаліся ў вокны, асыпалі на падваконне сваю расу, і можна было навыбіраць з іх на ўдачу колькі заўгодна пяціпялёсткавых кветачак...

І, зірнуўшы раптам у начную бездань лістоты, сустрэць нечы цёмны пагляд...

Зямля мая глядзіць на мяне.

# СТАРАВЕРСКІ «ААЗІС»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

## «КАЦАПЫ» І «ХАХЛЫ»

У стараверскай абшчыне здаўна існаваў звычай, строга трымацца якога павінны былі ўсе маладыя хлопцы і дзяўчаты: жаніцца або выходзіць замуж можна было толькі за «свайго», за старавера. Хоць і адносіны з браткамі-беларусамі паморы заўсёды ладзілі на аснове ўзаемнай павагі і разумення, а ўсё ж лічылася, што такая традыцыя захоўвала праз стагоддзі старажытны стараверскі лад жыцця і веравызнання. «Унутрыабшчынныя» шлюбы, відаць, добра захавалі да нашага часу генатып памораў, таму што жыхары стараверскага «аазіса» на нас, «бульбашоў», не вельмі падобныя.

Старшыня Скрыпліцкага сельскага Савета Іван Пятровіч Мухін уразіў нас перш за ўсё сваёй «нетутэйшай» знешнасцю, а таксама і чысцюткім рускім вымаўленнем — у прыватнасці, абсалютна дакладным і звонкім «г», што беларускаму чалавеку, як вядома, не пад сілу. Хаця і дзяды, і бацькі Мухіна і сам ён пражылі ўсё жыццё ў беларускай глыбінцы.

— Цяпер ужо няшмат засталося строгіх стараверскіх сем'яў, і межы паміж беларусамі і паморамі міжволі сціраюцца, — лічыць Іван Пятровіч. — Раней змешаным шлюбам упарта супраціўляліся бацькі, нават да выгнання з дому даходзіла. Я памятаю, як выходзіла замуж мая стрыечная сястра, старэйшая за мяне. Хлопец ейны быў беларус, і бацькі сустрэлі яго ў штыкі. Даходзіла да Бог ведае чаго, і яна была вымушана з мужам з'ехаць у Кіраўск, каб спыніць скандалы. Іх сям'я доўга не прызнавала, а потым, з гадамі, неяк чынам абжыліся.

Дарэчы, сам Іван Пятровіч таксама жанаты на беларусцы, і па тым часе асаблівых складанасцяў з бацькамі ўжо не ўзнікла, вось толькі крыху старыя бурчалі: «А чаму не нашу? Чаму хахлушку бярэш?..»

Чаму стараверы называюць беларусаў «хахламі» — растлумачыць ніхто не бярэцца. Праўда, і гаспадары тэрыторыі не засталіся ў даўгу і ўвялі ў мясцовы лексікон слова «кацап», што, як нам растлумачылі, не з'яўляецца абразай ці здзекам для старавера, але, у прынцыпе, нічога пазітыўнага ў гаворку таксама не ўносіць. А ўвогуле, самі старабрадцы кажуць пра сябе: «Мы рускія!» — і толькі. Як падкрэслівае староста мясцовай абшчыны ў імя Узвіжання Крыжа Гасподня Матвей Капцяроў, «стараверы заўсёды лічыліся сапраўдным, чыстым рускім народам, які, калі ўзяў сваю лінію, дык павінен яе захаваць, а не кідацца туды-сюды...»

Ніякіх канфліктаў паміж рускімі стараверамі і беларускімі праваслаўнымі ў Кіраўскім раёне не было. Беларусы лічаць, што калі займеў сябра-старавера і ён табе паверыў, дык ніколі не пакіне цябе ні пры якіх абставінах. Праўда, здараецца часам на ўзроўні асабістых адносін нейкая непрыязнасць да «кацапаў», але кожны тут ведае: канфліктаваць з імі небяспечна, бо кроў у гэтых памораў вельмі гарачая. Можа, калісьці, у старажытныя часы, у Архангельскую вобласць яны прыйшлі адкуль-небудзь з поўдня — гэтага ніхто дакладна не ведае, але раней на рэлігійныя святы стараверскі «аазіс» мала калі абыходзіўся без вялікай бойкі. Толькі слова не тое вымаві — і ўжо віруе гарачая кроў старавераў...

## «БОГ ДАЎ — БОГ УЗЯЎ»

У саўгасе імя Кірава, што размешчаны на тэрыторыі, дзе жыве стараверская абшчына, працуе шмат моладзі, і ніколі тут не было, як у іншых сельскіх гаспадарках, дэфіцыту працоўнай сілы. Сем'і ў старавераў вялікія: раней у іх было ў сярэднім па сем-восем дзяцей, цяпер — як правіла, трое-чацвёра. Напрыклад, у Капусцінскай базавай школе вучыцца зараз 60 дзяцей, у Скрыпліцы — больш за сто, і гэтыя лічбы вельмі вялікія ў параўнанні з любымі іншымі школамі ў сельскай мясцовасці, дзе часам у вялізных будынках вучацца па два-тры дзесяткі вучняў.

Вера забараняе жанчынам рабіць аборты, кожная стараверка ведае, што на тым свеце прыйдзецца адказваць за гэты грэх. Сям'я павінна прытрымлівацца прынцыпу: «Бог даў — Бог узяў».

Яфімія Карпаўна Іванова ўжо пятнаццаць гадоў жыве без мужа. Шчыра расказвае, што выйшла замуж у 19 гадоў за свайго, за старавера, але мужык моцна выпіваў, аднойчы падпаліў хату і загінуў сам. Але як бы ні было дрэнна, а чатырох дзетак Яфімія Карпаўна нарадзіла. Праўда, у апошні раз ездзіла да доктара і запісалася на аперацыю, але прыехаў бацька, моцна лаяцца на дачку і прымусіў трымацца законаў веры.



● *Амаль англійскі лужок перад вясковым «палацам» маладой стараверскай сям'і Сяргея і Святланы ЯРЫГІНЫХ.*

Калі пытацца ў стараверкі пра развод, дык яна абавязкова неяк рассеяна-здзіўлена перапытае: «Развод?..», бо быццам бы і не ведае, пра што ідзе гаворка. Потым спахопіцца і растлумачыць, што ў прынцыпе развесціся з мужам можна, але гэта не вітаецца ў абшчыне. Стараверы сталага веку жывуць адзін з адным увогуле, як кажуць, «цэлую вечнасць» і сапраўды не ведаюць, што ўяўляе сабой гэты распаўсюджаны па цяперашнім часе грамадзянскі акт.

Сярод імён старавераў, з якімі давялося пазнаёміцца, вельмі шмат старажытных і даўно непапулярных: Аўраам, Яфімія, Мацвей, Кузьма і да т. п. Аказваецца, у іх не было прынята называць дзяцей імёнамі, якія тае асабіста падабаюцца, а рабілася гэта духоўным настаўнікам, бацюшкам у адпаведнасці з царкоўным календаром. Зноў-такі, сучасная моладзь на гэта не вельмі зважае. Іван Пятровіч Мухін расказаў, што аднойчы прапанаваў жонцы назваць дачку па календары, дык уся сям'я дружна яго абсмяяла. А вось хрысціць дзіця ездзіў тайна ад бацькі, бо тады ён працаваў сакратаром партыйнага камітэта. Толькі са слоў дачкі, што нейкі барадаты дзед акунаў яе ў бочку з вадой, Іван Пятровіч здагадаўся, што дзяўчынку ахрысцілі.

Абрад хрышчэння ў старавераў істотна адрозніваецца ад яго правядзення іншымі рэлігійнымі канфесіямі. Дзіця распранаюць дагала, закрываюць яму вочы, нос і вушы і цалкам пагружаюць у ваду тры разы. Каб пахрысціць дарослага чалавека, рабілі копанку ці сажалку — яму з вадой, дзе бацюшка таксама тры разы акунаў з галавой будучага старавера.

Дарэчы, па паводзінах дзіцяці падчас хрышчэння рабілі высновы, ці здаровым яно вырасце. Гавораць, што даўней, калі дзіця пры хрышчэнні захлынулася вадой, ніхто і не шкадаваў: маўляў, Бог забраў нездаровага, слабага чалавека. Цяжка сказаць, ці праўда гэта, але стараверы сапраўды, як на падбор, выглядаюць фізічна моцнымі, дужымі людзьмі. Яны дажываюць, як правіла, да вельмі сталага ўзросту.

Магілкі ў старавераў размешчаны асобна ад беларускіх, ды і абрад пахавання іншы. Усю ноч, калі нябожчык у хаце, бацюшка вядзе малебен, і людзі не спыняючыся па чарзе чытаюць псалтыр. За чытанне звычайна плацяць грошы: праўда, ніхто платы не пытае і даюць хто колькі можа, але ў старавераў прынята справядліва плаціць за ўсякую працу. Чытальнікі звычайна атрымліваюць прыблізна сто пяцьдзесят тысяч рублёў за ноч.

Даражэй каштуе так званая «стойка» ці «паўстойкі»: чытанне да сарака дзён з дня смерці нябожчыка святых кніг на працягу трох тыдняў ці, адпаведна, палову гэтага тэрміну. Дазволіць сабе такое ўшанаванне памяці памерлага могуць толькі вельмі заможныя сем'і.

Спосаб пахавання ў старавераў таксама своеасаблівы: якое б ні было надвор'е і як бы далёка ні было да могілак, а ўсё роўна труну нясуць на плячах і транспартам не карыстаюцца. Нябожчыка нясуць не нагамі, а галавой уперад. У магілу кладуць абавязкова тварам на ўсход і ў нагах ставяць васьміканцовы крыж, які, як і спосаб хрысціцца двума пальцамі, з'яўляецца адметным сімвалам старавераў.

На памінках звычайна гарэлку на стол не ставяць, толькі пасля афіцыйнага мерапрыемства самыя блізкія нябожчыку людзі могуць асобна выпіць нешта алкагольнае. Праўда, гэта не азначае, што стараверы ўвогуле катэгарычна адмоўна ставяцца да алкагольных напояў. Яны п'юць, але ў меру і толькі ў выключных выпадках. Курыць ім таксама дазваляецца, але толькі не ў хаце — яна павінна быць чыстым месцам.

## УСЁ ЖЫЦЦЁ З СЯКЕРАЙ

Беднымі людзьмі старавераў назваць увогуле нельга. Яны вядуць здаровы лад жыцця, сродкі, сілы і час не марнуюць, і вельмі рэдка сустрэнеш сярод іх людзей прапашчых. Дырэктар саўгаса імя Кірава Васіль Таркан хваліцца, што стараверы — народ вельмі працавіты, а таму, нягледзячы на ўсе хібы дзяржаўнай эканамічнай палітыкі ў сельскай гаспадарцы, саўгас не лічыцца слабым. Зарплата тут не вельмі вялікая, але і вялікіх даўгоў перад сялянамі няма.

Мужчыны-стараверы — выдатныя будаўнікі, і навыкі працы з дрэвам ім, відаць, дасталіся разам з генамі. Раённы цэнтр Кіраўск пасля вайны будаваўся менавіта рукамі старавераў, бо ніхто лепш за іх не складзе зруб.

Жыхара вёскі Капусціна Рыгора Лаўрэнцьевіча Кушаварава мы сустрэлі на вуліцы Маладзёжнай, дзе ён калісьці быў першым забудоўшчыкам, а потым дапамагаў сваім, таксама маладым, таварышам будаваць хаты. Рыгор Лаўрэнцьевіч — сірата, ён не ведае, кім быў па прафесіі яго бацька, але свае здольнасці будаўніка лічыць чымсьці прыродным, спадчынным.

Здаецца, у стылі будаўніцтва стараверы падобныя... на амерыканцаў. Ім таксама падабаюцца вялізныя жыллёвыя плошчы, воля і прастор. Часткова, як і ў амерыканцаў, гэта тлумачыцца вялікімі сем'ямі, калі ў хаце кожнаму трэба знайсці месца.

Асабліва нас уразіла хата (нават цяжка назваць хатай такое вялікае і прыгожае вясковае збудаванне) маладой стараверскай сям'і Ярыгіных з вёскі Капусціна. Мы шчыра параілі галаве сям'і Сяргею Сцяпанавічу тэрмінова кідаць працу механізатара і зарабляць на жыццё ўзвядзеннем будынкаў. Зразумела, што ў будаўніцтве гэтай хаты прымаў удзел увесь стараверскі «клан», а грашыма дапамагалі бацькі. Сёння ў гэтай сям'і трое дзяцей, але ад велічыні дома застаецца ўражанне, што планы ў Сяргея і Святланы наконт гэтага яшчэ далёка не выкананы.

Стараверкам-жанчынам уласціва іншае рамяство — вышыванне. Знайсці вышыванкі можна ў кожным доме, без выключэння. Яфімія Карпаўна Іванова расказала, што яшчэ дваццаць—трыццаць гадоў таму ў стараверскіх паселішчах існаваў своеасаблівы «каменданцкі час» для моладзі — непаўналетнім было забаронена позна хадзіць па вуліцах. У часы маладосці Яфіміі Карпаўны клуба яшчэ не існавала, для танцаў здымалі па чарзе прыватныя хаты, але дарослыя строга сачылі за моладдзю і з вечарынак іх выганялі. Так што дзяўчынкам не было чаго рабіць, акрамя як... вышываць сабе пасаг. Гэта павінен быў быць немалы куль бялізны ды ручнікоў, бо, напрыклад, у Яфіміі Карпаўны было дванаццаць сватоў, і ўсім ім трэба было завязаць ручнікі на вяселлі.

Праўда, дочкі Яфіміі Карпаўны вышываць цяпер не ўмеюць, і, здаецца, вялікага жадання па прыкладу сваіх мацярок доўгімі вечарамі вышываць, а не глядзець тэлевізар ці танцаваць у сучасных дзяўчынак няма. Але ўсё ж такі некаторыя абавязкі за імі засталіся: напрыклад, прыбіраць хату.

Трэба шчыра прызнаць, што ўзровень санітарнай культуры, гігіены ў старавераў на больш высокім узроўні, чым у сярэдняга беларускага селяніна. Хаты, якія давялося наведаць, ну проста блішчэлі чысцінёй, асабліва што датычыць агульных гасцявых пакояў. Прычым ёсць у гэтай сферы адно істотнае адрозненне паміж тутэйшымі і стараверамі, якое сведчыць і аб характары: старавер ніколі не прапануе госцю выпіць нешта са свайго кубка і паесці са сваёй талеркі, усё — асобна. Яны нібыта кажуць: так, мы сапраўды больш закрытыя людзі, але закрытыя на карысць сабе...



● *Жыццёвая мудрасць свеціцца ў вачах Аляксандры Макараўны СЯМЁНАВАЙ, якой давялося пабачыць на сваім вяку шмат і гора, і радасці.*



● *Васьміканцовыя крыжы — адметная рыса старавераў, як і хрышчэнне двума пальцамі.*

## У ЦАРКВЕ — СЦІПЛАСЦЬ І НІЧОГА ЛІШНЯГА

Менавіта гэтым дзвюм кіруюцца стараверы. У адрозненне ад іншых канфесій, у царкве прыхільнікаў старой веры няма нават намёку на раскошу, няма ніякіх бліскучых упрыгажэнняў, уласцівых убранню іншых храмаў, — нічога такога, што магло б адцягнуць увагу верніка ад малітвы Госпаду.

У старавераў Кіраўскага раёна заўсёды была свая царква ў вёсцы Капусціна. Перадапошняе драўлянае збудаванне на сродкі абшчыны было закладзена пры Леніне, у 1919 годзе, і праз два гады царкву асвяцілі. Пры Саветах стараверам было гэтак жа цяжка, як і іншым вернікам. Хутка Капусцінская царква была зачынена, пакуль у вайну па дазволу Сталіна не аднавіла сваю дзейнасць.

— Так, быў час, калі з нашай царквы і званы скідвалі, і крыжы ссякалі. Але вера наша не знікала ніколі. Пабароць старавераў улады так і не здолелі, — упэўнена кажа Іван Пятровіч Мухін.

З адметнасцяў стараверскіх царкоўных абрадаў можна адзначыць, па-першае, што бацюшку прыхаджанам ніхто не прызначае, духоўнага настаўніка вернікі выбіраюць самі, і ён займае гэту пасаду, пакуль жывы. Гавораць, што цяперашняму духоўнаму настаўніку абшчыны Узвіжання Крыжа Гасподня гадоў пад дзевяноста, і ён амаль не мае зносінаў з пабочнымі асобамі. Богаслужэнні бацюшка праводзіць, апранаючыся ў сціплы чорны халат без упрыгажэнняў. У абрадах старавераў не прадугледжаны парафін, а таму набыць свечку ў царкве, каб паставіць перад іконай, тут немагчыма. Нешматлікія свечы, якія ёсць у царкве, стараверы робяць з пчалінага воску. Чым таўсцейшая свечка — тым больш важкі ўклад.

Нягледзячы на тое, што стараверы паважлівага ўзросту не стамляюцца скардзіцца на моладзь, якая не жадае дакладна выконваць усе правілы старой веры, а царква ў «Капусціне» на прастольныя святы запаўняецца «пад завязку» людзьмі самага рознага ўзросту, якія ідуць сюды пешшу, прыязджаюць на конях і аўтамабілях. Апошнім разам праз споведзь прайшло каля сотні мужчын і столькі ж жанчын.

Аляксандра Макараўна Сямёнава не чытае газет і свецкіх кніг, таму што ў спадчыну ёй засталося вялікае багацце — старажытныя стараверскія кнігі ў драўляных вокладках з жалезнымі замкамі. У некаторых кніг нельга знайсці дату друкавання, але, напрыклад, па адной з іх бачна, што хтосьці падклейваў яе газетай 1901 года. «Залатавуст» найбольш добра захаваўся з усяго багацця Аляксандры Макараўны: кніга была выдадзена ў 1721 годзе ў Маскве. Жанчына чытала нам 25-ю главу, бо, па яе меркаванню, яна гаворыць менавіта аб нашым жыцці. Цяжка было зразумець на старaславянскай мове нешта наконт таго, як зарастуць нашы нівы быллём ды зямля не дасць плоду...

* * *

Аляксандру Макараўну аднавяскоўцы лічаць жанчынай мудрай. І не толькі з-за таго, што яна ведае старую рускую мову, і не таму, што чытае святыя кнігі. У яе вачах — нейкая жыццёвая мудрасць чалавека, які шмат чаго перажыў. І сапраўды, ганенні выпалі на долю не толькі продкаў Аляксандры Макараўны, якія перасяліліся на беларускія землі ў XVIII стагоддзі. Усё, што расказала пра сваё жыццё гэта 67-гадовая жанчына, уражвае.

Бацьку свайго Аляксандра Макараўна не памятае: яго ў 30-я гады, як і многіх працавітых і заможных старавераў, раскулачылі і адправілі ў ссылку, дзе ён і памёр. Маці падчас арышту чакала дзіця, і дзяўчынка пабачыла свет ужо без бацькі. Але праз некалькі гадоў і маці Аляксандры Макараўны, якая не пайшла ў калгас, абвінавацілі ў контррэвалюцыі і перад пачаткам вайны пасадзілі ў турму. Праз два месяцы памерла малодшая дачка (а ўсяго дзяцей было шасцёра), яе пахавалі без маці, але даслалі тэлеграму старэйшаму сыну, які быў у арміі. Той прыехаў і ўсё ж такі выбавіў маці з турмы, яе выпусцілі за два дні да пачатку вайны.

Аляксандра Макараўна нарадзіла і выхавала дзесяць сваіх дзяцей. Але зараз на яе плечы леглі і клопаты па траіх унукаў, якія засталіся сіротамі пасля трагічнай гібелі сына і нявесткі. Але жанчына жыве, змагаецца і не скардзіцца...

І нам, гасцям у «аазісе» старавераў з Кіраўскага раёна, падалося, што такім людзям, як Аляксандра Макараўна Сямёнава, ды і іншым, не трэба баяцца ні ніў, якія парастуць быллём, ні зямлі, якая не дасць плоду... Таму што яны ўсё вытрымаюць, усё адолеюць і будуць жыць. Той стараверскі ўнутраны духоўны стрыжань дасць сілы і мужнасць гэтым людзям згуртавацца і прайсці праз усе выпрабаванні лёсу. І ў чымсьці мы па-добраму ім зайздросцім...

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Ірыны САВОСІНАЙ.**

**... Атака атрымалася імклівай і проста непаўторнай. Варатар Анатоль Галуза, авалодаўшы мячом, хуценька перадаў яго на фланг Юрыю Шаўцову, той маланкай паімчаўся наперад і, нават не паглядзеўшы ні на партнёраў, ні на сапернікаў, накінуў мяч над штрафной гасцей...**
**У імгненне вока над пляцоўкай узляцеў Аляксандр Каршакевіч, злавіў мяч у паветры і, не прызямляючыся, у прамым сэнсе слова ўваткнуў яго ў сетку варот. Перапоўнены мінскі Палац спорту «ўзарваўся» авацыяй: славуты армейскі «парашут» быў выкананы бліскуча.**

**Мне той гол сніўся разоў пяць — не менш!**

З ЮБІЛЕЕМ!

# Спартак — гэта ўсё ж такі Імя...

***Заслужанаму трэнеру СССР і Беларусі С. Мірановічу — 60 гадоў***



НЯМА ў нашым айчынным беларускім спорце больш прызнанага, аўтарытэтнага, кампетэнтнага, ведаючага таямніцы сваёй справы спецыяліста, чым ён — Спартак Мірановіч. Няшмат такіх было нават у былым Савецкім Саюзе... У нас жа — няма, і, мяркуючы па ўсім, не скора будзе...

**Гандбол для яго — усё жыццё.** А калі зусім ужо дакладна: яму Спартак аддаў ужо роўна сорак(!) гадоў. Амаль дзесяцігоддзе гуляў сам, потым узначаліў каманду спартыўнага клуба арміі (СКА) Беларускай вайсковай акругі. І прывёў яе (а калі дакладней — прыйшоў разам з ёй) да вяршынь еўрапейскай і нават сусветнай славы.

А пачыналася ўсё будзённа, звыкла, без усялякіх там радасных надзей і перспектыў.

1957 год. У Беларускі інстытут фізічнай культуры на завочнае аддзяленне (на дзённае не прайшоў па конкурсу) паступае выпускнік (з дыпломам, зазначу, з адзнакай!) Данецкага тэхнікума фізкультуры Спартак Мірановіч. Праз год дваццацігадовы юнак знаёміцца са студэнтам ІФК Сяргеем Авакумавым, з якім і пачынае дапамагаць мінскай моладзі — у асноўным студэнтам ВНУ — асвойваць азы зусім новага для яе, аднак такога захапляючага, дынамічнага, відовішчнага віду спорту.

І вось надыходзіць 1960 год. У беларускай сталіцы ствараецца гандбольная каманда «Палітэхнік». Яе настаўнікам становіцца Віталь Аляксандравіч Дабравольскі, выкладчык політэхнічнага інстытута, а душой і мазгавым цэнтрам, вядома ж, яны — Спартак Мірановіч і Сяргей Авакумаў. Пачалі разыгрывацца чэмпіянаты Беларусі, а ў 1962-м беларускія майстры ручнога мяча дэбютавалі на ўсесаюзным першынстве.

Імкліва, як заўсёды, ляцеў час. Але ж набыткі літаральна з кожным годам станавіліся больш важкімі і значнымі. У 1963-м пры падтрымцы кіраўніцтва Мінскай ДЮСШ-5 (дырэктарам яе быў тады вядомы пасля футбольны педагог Леанід Лапуноў) Спартак Мірановіч разам з былым аднакашнікам па ІФК Анатолем Кабанавым ствараюць на базе толькі што здадзенай у эксплуатацыю сярэдняй школы № 88 гандбольную секцыю. Секцыя, якая крыху больш як праз пятнаццаць гадоў дасць сусветнаму спорту(!) сапраўдных «зорак» самай першай велічыні.

«Зоркі» ж раслі, загараліся, вядомая справа, не адразу, і не дзесяткамі. Мірановіч і Кабанаў літаральна «выношвалі» іх — бы немаўлят. Аднымі з першых, чый талент раскрыў Спартак, быў Леанід Гуско, Аляксандр Ласавік, Васіль Сідорык, браты Аляксей і Мікалай Жукі... Праца настойлівая, у прамым сэнсе слова — да сёмага поту, патрабавала шмат часу, энергіі, ведаў, аднак Мірановіч, пакуль мог, адчуваў сілы, гуляў і сам: вялікі гандбол як спартсмен ён пакінуў толькі ў 1970-м.

Аднак ягоныя здольнасці як настаўніка, педагога, кіраўніка ўжо былі заўважаны і ацэнены. Яшчэ ў 1971 годзе Мірановічу прапанавалі пасаду старшага трэнера юнацкай зборнай СССР, якая выйграла потым шэраг буйных міжнародных турніраў і чэмпіянатаў. Дарэчы, у састаў той каманды пастаянна ўваходзілі 5—7 гандбалістаў з Беларусі, як правіла, выхаванцы яго ж, Спартака Пятровіча.

У 1977 годзе адбыўся першы чэмпіянат свету сярод гандбалістаў не старэй 21 года. Юніёрскую зборную СССР узначальваў С. Мірановіч. І на тым, і на наступных трох чэмпіянатах нашы юныя майстры заваёўвалі залатыя ўзнагароды, і нязменна кіраваў імі ён, Спартак Мірановіч. Больш таго, сярод «залатых» лаўрэатаў было ажно 13 мінчан, і сярод іх — Аляксандр Каршакевіч і Юрый Шаўцоў, Анатоль Галуза і Уладзімір Міхута, Ігар Кашкан і Георгій Свірыдзенка, Канстанцін Шараваraў і Аляксандр Тучкін...

Паралельна з работай у зборных СССР, у 1975 годзе Спартак Пятровіч стаў і на чале лепшай беларускай клубнай каманды, пераўтворанай тады ж з «Палітэхніка» ў СКА. У той самы СКА, што ў васьмідзесятыя гады наводзіў сапраўдны жах на сапернікаў не толькі на чэмпіянатах Савецкага Саюза, але і ў розыгрышах самых прэстыжных еўрапейскіх кубкаў.

Ад аднаго толькі пераліку тытулаў, заваяваных камандай Спартака Пятровіча на працягу васьмідзесятых гадоў, галава, што называецца, можа закруціцца. Шасціразовыя чэмпіёны Савецкага Саюза, трохразовыя ўладальнікі Кубка СССР, трохразовыя гаспадары Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін і ўладальнікі Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў, фіналісты розыгрышу Суперкубка кантынента... Такога паслужнога спіса не было ні ў адной каманды па гульнявых відах спорту ва ўсім Савецкім Саюзе. Ды і на кантыненце такіх клубаў нямнога...

А яшчэ былі перамогі, што ўпісаны ў летапіс сусветнага спорту. Восем армейцаў Мінска атрымалі тытулы алімпійскіх чэмпіёнаў на Гульнях 1988 і 1992 гадоў: Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Георгій Свірыдзенка, Аляксандр Тучкін, Канстанцін Шараваraў, Міхаіл Якімовіч, Андрэй Барбашынскі і Андрэй Мінеўскі. Больш таго, абодва разы на Алімпіядах ля штурвала нацыянальнай зборнай СССР і каманды СНД (так яна называлася ў 1992-м) стаяў наш выдатны настаўнік і педагог Спартак Мірановіч.

**Гісторыя беларускага гандбола — гэта, без перабольшання, яго, Спартака Пятровіча Мірановіча, біяграфія.** З узлётамі і падзеннямі (былі і апошнія). Але ён ведаў адно: што робіць і куды ідзе! Самым вялікім шчасцем для яго таксама было і застаецца адно: калі спартсмены дораць людзям радасць перамогі і натхненне. «І тады, — прызнаўся мне аднойчы Спартак Пятровіч, — я бачу і адчуваю: жыву на свеце не дарэмна...»

Не, не выпадкова імя гэтага Чалавека — СПАРТАК!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

***НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ***

# АПОШНІ «АЎТОГРАФ» ДЛЯ БІЗНЕСМЕНА

## *Чаму ён стаў для яго смяротным прысудам?*

**Ён упершыню апынуўся ў тым сібірскім горадзе: прыехаў сюды па выключна асабістай справе. Абапіраючыся на сукаваты кіёк і кульгаючы на левую нагу (даўні і не вельмі прыемны напамінак аб сустрэчы з мядзведзем-шатуном у тайзе), ён спакваля чыкільгаў па тратуары адной з нешырокіх вуліц. Але раптам замест патрэбнага нумара дома і назвы канторы, якую старанна шукаў, яго ўважлівы позірк прыцягнула да сябе рэспектабельная шыльда... з яго прозвішчам. Ён ажно аслупянеў — ці не прымроілася гэта? — так уразіла яго ўбачанае. Затым, крыху супакоіўшыся, ускараскаўся па прыступках лесвіцы на ганак і зайшоў у прыёмную. Там сакратарка гарэзліва-смехатліва размаўляла з некім па тэлефоне. Не зусім пажаданы наведвальнік пачакаў, пакуль яна скончыць свой вясёла-жартоўны расказ, глянуў на дзверы кабінета яе кіраўніка, наблізіўся да стала і нешта шэптам спытаў.**

**— О, калі вы нейкі сваяк ці блізкі знаёмы нашага шэфа, дык сёння ўвечары зможаце пабываць на яго імянінах, — ветліва адказала сакратарка і назвала рэстаран, у якім адбудзецца гэта ўрачыстасць. — Я вам зараз напішу яго адрас.**

**— Не, не трэба, вялікі дзякуй, — спыніў яе намер госць. — На жаль, выкарыстаць гэты зручны выпадак не змагу. Я ў вашым горадзе праездам, ды і гады, здароўе не дазваляюць ужо хадзіць па гасцях, тым больш, па рэстаранных банкетах.**

**Ён прывычным жэстам прыклаў правую руку да сэрца і ціха, як і зайшоў, пакінуў прыёмную...**

...Застолле гуло, нібы ў самы летні сонечны прыпар пчаліны вулей. Падагрэтыя не адным келіхам адмысловай гарэлкі, разнастайных, шмат гадоў вытрыманых гатункаў каньякоў і він, госці былі ўжо ў той кандыцыі, што ім хацелася нечага незвычайнага, нават экстравагантнага. І дарэмна прыветлівая гаспадыня гэтага раскошнага мерапрыемства, жонка імянінніка Вікторыя, ці, як усе яе любоўна і паважліва называлі, — Віка, прыгожая, маладая жанчына, прасіла-ўпрошвала адведаць свежанькай асятрынкі і іншых самых рэдкіх і далікатэсных прысмакаў.

— Каб вы, шаноўныя госці, крыху адпачылі, — раптам падаў голас невысокага росту, тоўсценькі мужычок з расчырванелым тварам, — асабіста для нашага дарагога імянінніка я прапаную забаўны анекдот.

— Во, гэта я люблю. Давай! Хоць сто порцый адразу, — падахвоціў яго Высокаў.

Але не паспеў той закончыць свой не вельмі прыстойны «анекдоцік», як да імянінніка падышоў афіцыянт.

— Вось папрасілі вам перадаць, — сказаў ён і паклаў на стол сіні канверт.

Высокаў не спяшаючыся ўзяў яго, мяркуючы, што ў ім звычайнае чарговае віншаванне, без асаблівай цікаўнасці распячатаў пакет і... ажно збялеў. На далонь выкацілася куля ад карабіна, на баку якой значыліся дзве надрапаныя літары— «А. В.»

— Хто гэта прынёс? — як ашпараны ўскочыў ён з крэсла.

— Нейкі незнаёмы мужчына ў чорных акулярах і плашчы, — спакойна адказаў афіцыянт.

— Ты што, не мог яго затрымаць, запрасіць да стала? — узлаваўся бізнесмен і стрымгалоў кінуўся да выхаду. Але там, зразумела, ужо нікога не было...

Нечаканы візіт загадкавага незнаёмца, а перш-наперш яго неверагодны «падарунак» зусім сапсавалі Высокаву ўрачыста-святочны настрой. Ён нейкі час сядзеў моцна задумлівы, спахмурнелы, як у ваду апушчаны. А потым, спаслаўшыся на стомленасць і недамаганне, на тое, што заўтра ў яго нялёгкі дзень, папрасіў прабачэння і паехаў дамоў. Ніхто з гасцей не прыдаў гэтаму асаблівага значэння, адно жонка праводзіла яго ўстрывожана-незразумелым позіркам.

Калі яна пазней вярнулася дадому, то застала мужа ў прыхожай: ён з некім усхвалявана гаварыў па тэлефоне. «Вось ужо гэтыя камерсанты: нават ноччу не даюць спакою», — падумала яна і пайшла спаць. Прачнулася ж Вікторыя, як ад удару грому... ад выстралу. Кінулася ў суседні пакой і ажно жахнулася: крэсла, у якім сядзеў муж, і яго галава былі заліты крывёй. Тут жа, на падлозе, ляжаў пісталет.

Вестка аб гэтай трагедыі назаўтра раніцай маланкай разнеслася па ўсяму гораду. І хоць медэкспертыза ўстанавіла, што смерць Высокава — гэта вынік самагубства, усё роўна папаўзлі самыя разнастайныя чуткі. Адны сцвярджалі, што гэты дзялок быў звязаны з так званым «злачынным светам», і за нейкія ранейшыя даўгі яго прыкончылі ва ўласнай кватэры. Другія меркавалі, што ён, займаючыся махінацыямі, не падзяліўся сумленна са сваімі «ценявымі» кампаньёнамі, і яны прымусілі яго расстацца з жыццём.

Тайна гэтай загадкавай смерці бізнесмена, відаць, ніколі і нікому не стала б вядомая, калі б не адбылася яшчэ адна немалаважная падзея.

Неяк, выбраўшы зручны час, Вікторыя паехала на могілкі, каб прывесці да ладу магілу мужа. Не паспела яна яшчэ паставіць кветкі, як за спінай пачуліся крокі. Яна тут жа азірнулася і ледзь не абамлела: перад ёю стаяў, абапіраючыся на кіёк, мужчына ў паношаным шэрым плашчы і чорных акулярах.

— Што, Віка, не пазнаеш? — першым азваўся ён.

Яна ўтаропіла позірк у зарослы шчаціннем твар, і ён ёй здаўся да болю знаёмым.

«Не можа быць!» — яна ўзмахнула рукой перад вачамі і затым ціха спытала:

— Няўжо гэта, Саша, ты?

— Так, ты не памылілася, гэта — я, — гэтак жа ціха адказаў прышэлец.

— Як жа так? Нічога не разумею. Барыс мне расказваў, што даўно пахаваў цябе ў тайзе, у Прыморскім краі, — выціснула Вікторыя і апусцілася на лаўку.

— Несусветны лгун і злачынец твой Барыс — вось хто, — прамовіў Аляксандр і таксама прымасціўся побач.

...Яны з самага дзяцінства, колькі сябе памятаюць, жылі ў адной вёсцы. Разам гулялі, наладжвалі розныя забавы, потым хадзілі ў адну школу, вярталіся дамоў. Але прыгожая, гарэзлівая Віка заўсёды і ўсюды хацела быць толькі з Сашкам і Боркам. А перш-наперш — з Сашкам. Брату гэта не падабалася, і нярэдка паміж імі ўзнікалі бойкі. Але і яны нічога не мянялі.

Ішлі гады, і свавольнае дзіцячае сяброўства перарасло ў сапраўднае каханне, якое паступова ўсё мацнела.

— І ўсё роўна Віка будзе маёй! — як адсек, аднойчы сказаў Барыс.

— А гэта мы яшчэ паглядзім, хто паставіць на сваім, — быў жартоўны адказ Аляксандра.

...Яны дамовіліся так: ён паедзе куды-небудзь на заробкі, магчыма, нават у Сібір, заробіць там шмат грошай, вернецца назад, і яны пажэняцца. Пачуўшы пра гэта, падахвоціўся паехаць з ім і Барыс. Толькі не ведаў Аляксандр сапраўднага намеру свайго брата...

Назад той вярнуўся адзін і прывёз страшную вестку аб выпадковай трагічнай смерці Сашы. Адно перадаў Вікторыі яго апошнюю просьбу не пакідаць яе, быць самай надзейнай апорай ёй у жыцці. На самай справе ўсё гэта было вялікай маной, прытым з адной карыслівай мэтай, каб дзяўчына, якую ён таксама кахаў, стала яго жонкай.

...У той ужо далёкі год Аляксандр і Барыс з Палесся прыехалі на сібірскую раку Алдан з надзеяй уладкавацца на работу ў брыгаду стараццеляў, якія працавалі на прамыўцы залатаноснага пяску. Аднак ім адмовілі ў прыёме: неабходная колькасць рабочых ужо была набрана. Тады браты, як золаташукальнікі Кландайка, вырашылі самі паспрабаваць шчасця: знайсці багатую залатаносную жылу, якая абагаціць іх на ўсё жыццё. Але колькі яе ні шукалі, знайсці так і не змаглі.

І ўсё ж нарэшце ім пашанцавала. Яны нечакана трапілі на пачарнелы ад часу шкілет чалавека, ля якога знаходзілася амаль ужо спарахнелая скураная сумка, поўная крупінак золата. Вядома, яны забралі гэту знаходку і пакрочылі далей, каб выйсці хоць на якую-небудзь дарогу.

— Ці правільна мы ідзём? — раптам засумняваўся Барыс.

— А мы зараз паглядзім, — адказаў Аляксандр. Ён скінуў на зямлю руказак, зірнуў на компас. — Здаецца, правільна. Цяпер галоўнае дабрацца да якой-небудзь дар...

Ён не паспеў дагаварыць, як нечакана ўскрыкнуў ад страшэннага болю, што працяў левую лапатку.

За яго спінай стаяў Барыс з акрываўленым нажом у руцэ. Затым ён падышоў бліжэй і гэтым жа нажом нанёс яшчэ адзін удар у жывот. Аляксандр упаў ніцма на зямлю і заціх...

— Вось так, брат. Золата мы яшчэ змаглі б падзяліць, але толькі не Вікторыю...

...— І як ты, Сашанька, выкарабкаўся з таго свету? — нарэшце парушыла маўчанне Вікторыя, змахнуўшы далонёю слёзы з вачэй.

— Як? Моцна, ох як моцна памыліўся мой браток Барысок, калі яго можна так назваць, думаючы, што пазбавіўся ад мяне, — глуха адказаў Аляксандр і крыва ўсміхнуўся.

Так, шанцаў на выжыванне ў яго ўжо амаль не было. Толькі па шчаслівай выпадковасці, а можа, гэта была Божая воля, праз дзень Аляксандра знайшоў паляўнічы сабака, які падаў знак свайму гаспадару. Той беражліва аднёс яго на бліжэйшую зімоўку, зрабіў усё магчымае, каб вярнуць яго да жыцця, а потым паіў-адпойваў рознымі настоямі з таежных траў і раслін, залечваў раны. Амаль год А. Высокаў ляжаў нерухомы, быў паралізаваны.

— Калі ж ачуняў, стаў на ногі, то вырашыў за ўсё адпомсціць брату, — працягваў свой расказ Аляксандр. — Але калі даведаўся, што вы пажаніліся і ты шчаслівая з ім, перамог сваю нянавісць.

— Даруй мне, але ты ўсё ж адпомсціў яму, — не пагадзілася з яго довадамі Вікторыя.

— Разумееш, я паляўнічы-прафесіянал. А ў нас правіла такое: калі сустрэўся з драпежнікам, то яго трэба загнаць у пастку або прыстрэліць. Даруй мне, але мой брат, а твой былы муж, — не хто іншы, як драпежнік.

— Як ты можаш так гаварыць? — усхліпнула Вікторыя. — Навошта ты парушыў спакой нашай сям'і? Ну навошта, скажы шчыра?

— Я зусім не хацеў гэтага. Павер, Віка, не ведаў, што вы жывяце ў гэтым горадзе. Аднак калі выпадкова ўбачыў шыльду на фірменным магазіне са сваім прозвішчам і спытаў, хто яго ўладальнік, зразумеў усё. Барані Божа, я не думаў і не хацеў зводзіць з ім ніякіх рахункаў. Проста мне хацелася паглядзець яму ў вочы, спытаць, як ён мог узняць нож на роднага брата, а цяпер багацець і тлусцець, калі навокал такая беднасць і жабрацтва? Вось і адправіў яму ў канверце кулю са сваімі ініцыяламі, а ён ведаў, што менавіта так я пазначаю патроны, калі іду на паляванне. А затым ноччу патэлефанаваў... 

**Запісаў Іван БРАЛКА.**

***P. S. Гэту неверагодную гісторыю я пачуў ад чалавека, з якім зусім выпадкова сустрэўся на чыгуначным вакзале ў Мінску. Пётр Васільевіч, як ён назваў сябе (прозвішча сваё назваць адмовіўся), добра знаёмы з Аляксандрам Высокавым. У родную Беларусь прыехаў адведаць сваякоў. Пра свайго сябра сказаў вельмі коратка: ён жыве ў Прымор'і, там у яго сям'я, дзеці.***

